*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
**ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ**



# НАША СЛОВА




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 18(352)** **13 ТРАЎНЯ 1998 г.**

## Рэспубліканская рада ТБМ

6 чэрвеня а 12 гадзіне адбудзецца паседжанне Рэспубліканскай Рады ТБМ. На парадку дня — стан беларускамоўнай адукацыі ў ВНУ Беларусі.

Суд па высяленні ТБМ з памяшкання па вул. Румянцава , 13 перанесены на 11.00 13 траўня

## Чатыры тыдні ў красавіку

Прыватны агляд беларускага друку.

Красавік адчыняецца заўсёды Днём Дурня, які сёлета адзначаўся ці не па ўсім свеце. Дурань жа , вядома, шмат робіць памылак, і менавіта ім прысвячаецца красавіцкі агляд.

***Памылкі друку, месца і зместу*** (Звязда, Наша слова)

***Лексічныя вынаходствы*** (Навіны, Звязда)

***Памылкі зместам жыцця*** ("Сцяна" Васіля Быкава)

Друк, як здаецца, нездарма пачынаецца на тую ж літару, што і "дурань", бо існаваць не можа без памылак (сваіх і чужых), і ці не найвялікшым полем дзейнасці ёсць супярэчлівая моўная стыхія Беларусі. Колькі год таму расейская мова ў "Звяздзе" здавалася немагчымаю, сёння — калі ласка. Памылка месца? Але гэта ўсё ж толькі газета, памыліліся (на двары ж сакавік) складальнікі звышсур'ёзнага Грамадзянскага працэсуальнага кодэксу (Звязда, 17.04.98г.), скарыстаўшы ў ім выраз "сацыялістычная правасвядомасць"! Памылка часу ? Нарэшце, ў маім папярэднім аглядзе некуды знікла слоўца "НЕ", і аптымістычны сказ пра тое, што праблемы беларушчыны не чужыя нашаму грамадству, раптам перапоўніліся чорным песімізмам. Памылка — але мая, ці друку? Не ведаю.

Памылкі друку тэхнічныя, нецікавыя. Ну стаў вядомы расейскі пісьменнік Залыгін малавядомым Залыціным (Наша слова) — хай ! Хаця так яго пакараем за непавагу да гістарычнай ісціны. Горш, калі за справу бяруцца людзі з фантазіяй, і ў "Звяздзе" раптам бачым доўгі - доўгі назоў буйныміі літарамі: "На Радзіме яны пакаралі снежныя пустыні, а за мяжой працавалі ... дворнікамі". Гэта ўжо сапраўдная пакаранне — і для чытача, і для мовы. Калі надалей так пісаць, то ўсе намаганні па адраджэнні мовы будуць, як пісалі "Навіны" 15.04.98г. "вырачаныя на няўдачу". Калі ж хто вырачыўся на няўдачу, той сказаны на параду — логіка жыцця. Застаецца толькі разлічваць на славутыя карпенкавае "паразуменне": Мо яно дапаможа акілзаць нечакана ўзрослае "лексічнае багацце". У красавіку ж я пазнаёміўся з новай кнігай В.Быкава "Сьцяна", пра якую шмат хто чуў, а нехта і чытаў, прынамсі "Жоўты пясочак".

Я ж, прачытаўшы, падумаў, што сцяна тая, як з цэглы ды грувасткіх каменных блокаў складзеная з ... памылак. Памылак агромністых, з бязмежнымі і бязлітаснымі наступствамі, і драбнейшых, але не менш ад таго балючых. Памылак усеагульных і асабістых, прыгожых і пачварых. Тых, якія складаюцца ў жыццё.

Гэтая кніга, рызыкну спрагназаваць, ніколі не будзе празмерна папулярнай. Ніхто не хоча бачыць жыццё суцэльна апанаваным Памылкаю. Але - не ведаю, ці пагодзіцца са мною аўтар, — я адчуў і нейкую палёгку. Усё ж лепей, калі жыццё перасычана хібамі, чым спрадкавана злачынствам. Быкаў, дэманструючы, як усе без выключэнняў церпяць ад памылак, дорыць нам права шукаць чалавечае нават там, дзе яго па ўсіх прыкметах няма. Гэта, безумоўна, ідэалізацыя, але і мудрасць, бо вучыць болей за памылкі баяцца пачуця беспамылковасці.

З гэтага гледзішча прашу ўспрымаць мой агляд тых, чые творы знайшлі ў ім пачэснае месца, і тых, хто палічыць яго за чарговы уклад у скарбонку памылак і недарэчнасцяў.

Д.Ж.

Увага! Змяніўся нумар тэлефона ў сядзібе ТБМ. Тэлефануйце, калі ласка, 2-84-85-11

## РЭГІЯНАЛЬНЫ БІБЛІЯТЭЧНЫ СЕМІНАР У МЕНСКУ

З 5 па 7 траўня 1998г. у Менску праходзіў рэгіянальны бібліятэчны семінар інстытутаў імя Гётэ Усходняй Еўропы і Цэнтральнай Азіі сумесна з Беларускай бібліятэчнай асацыяцыяй і з Міністэрствам культуры Беларусі.

Для работы ў семінары былі запрошаны бібліятэкары і работнікі розных службаў інфармацыйнага маркетынгу з Алматы, Кіева, Менска, Масквы, Санкт-Пецярбурга і Германіі. Асноўная тэма семінара "Сучасная бібліятэка: Абсталяванне і дызайн".

Пад час правядзення семінара былі разгледжаны пытанні, якія датычацца сучасных тэндэнцый у стварэнні бібліятэчнай прэсторы, асноўных патрабаванняў да афармлення інтэр'еру, асаблівасцяў і прыёмаў бібліятэчнага дызайну, а таксама знешняй і ўнутранай рэкламы бібліятэк. Нямецкі бок бясплатна прадставіў усім удзельнікам праспекты і каталогі самай сучаснай бібліятэчнай мэблі і іншага абсталявання для бібліятэк.

На адкрыцці семінара выступіў часовы паверааны ў справах пасольства ФРГ доктар Петэр Кольб.

6 мая плённа працавалі 3 секцыі семінара: дзіцячыя, публічныя і навуковыя бібліятэкі. Цікава адзначыць, што прадстаўнікі менскіх бібліятэк прынялі ў семінары самы актыўны ўдзел. І гэта не гледзячы на тое, што іхнія штатныя аклады ў сярэднім не даходзяць нават да 1,5 млн.рублёў.

***Алег Трусаў.***

## Сойм БНФ "Адраджэньне"

9 траўня ў Менску прайшоў чарговы Сойм Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне". Сойм разгледзеў бягучыя пытанні дзейнасці Фронту і прыняў заяву ў абарону палітычных вязняў Паўла Севярынца і Аляксея Шыдлоўскага. На Сойме быў распаўсюджаны заклік Рады Беларускай Народнай Рэспублікі да ўсіх дэмакратычных сілаў на Беларусі, да ўсіх грамадзян Беларусі падтрымаць акцыю грамадзянства БНР.

## Яшчэ адзін слоўнік

М. А. Аўласевіч, Т. І. Якубовіч

МАРФЕМНЫ СЛОЎНІК БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

У Магілёве выйшаў "Марфемны слоўнік беларускай мовы. Аўтары М. Аўласевіч і Т. Якубовіч. Слоўнік прызначаны для сярэдняй школы і ўтрымоўвае каля 13 тысяч словаў, падзеленых у адпаведнасці з правіламі марфалогіі на прыстаўкі, карэнні, суфіксы ды канчаткі. Слоўнік вельмі карысны для школьнікаў на этапе вывучэння будовы словаў.

## Ахвяраванні на ТБМ

| | |
|---|---|
| Г. Даніловіч | - 100 тысяч |
| Ларыса Сіняўская | - 300 тысяч |
| Генадзь Банкевіч | - 100 тысяч |
| Алесь Петрашкевіч | - 200 тысяч |
| Мікола Устымчук | - 80 тысяч |
| Уладзімір Голубеў | - 100 тысяч |
| Марыя Чарняк | - 60 тысяч |
| Аркадзь Галай | - 100 тысяч |
| Анатоль Грыцкевіч | - 300 тысяч |

Сакратарыят ТБМ выказвае шчырую ўдзячнасць усім ахвярадаўцам і просіць сяброў ТБМ накіроўваць свае ахвяраванні на рахунак 3015212330014 код 764 у Гардырэкцыі Белбізнесбанка г. Менска.

## Беларускія СМІ пра беларускую мову

***Агляд і каментары Язэпа Палубяткі***

У Вялікім княстве Літоўскім беларуская мова была дзяржаўнай. У саюзным "лукашэнкаўскім княстве" за беларускую мову надзяваюць кайданы, лупцуюць дубінкамі, цкуюць сабакамі.

Валеры Шчукін
"Народная воля" № 72

*Чытаючы вашы газеты і літаратурныя выданні, з жахам назіраю набліжэнне іх мовы да ўзроўню варварскай "трасянкі". Для культурнай беларускай, магчыма, ужо не знайшлося б чытача ...*

Сакрат Яновіч
"Пагоня" 23.04.98г.

Была адліга. Дзяржаўнай мовай на паперы стала беларуская. Але тыя, хто выракся, не прынялі нацыянальнага адраджэння, заляманталі на ўсю рэспубліку, што іх гвалтоўна прымушаюць гаварыць на бацькаўскай мове, і яны дамагліся свайго, бо тыя праўдзіры, "вольныя беларусы" не аб'ядналіся, не павязаліся ў венік, каб абараніць незалежную Бацькаўшчыну.

Народная воля 23.04.98г.
Сымон Белы.

*Нават беручы пад увагу некарэктнасць ( з розных глядзішчаў) прапанаваных на рэферэндум пытанняў і спрэчнасць выніковых лічбаў, немагчыма ўсё ж пярэчыць відавочнаму: для пераважнай большасці беларусаў (тут дакладней будзе сказаць насельнікаў Беларусі) Беларусь не ёсць каштоўнасцю ні ў выяве мовы, ні ў выяве гісторыі і культуры, ні ў выяве незалежнасці.*

ЛіМ № 17 24.04.98г.
В.Акудовіч.

Адным з найгалоўнейшых хібаў выкладання беларускай літаратуры у школе з'яўляецца, на жаль, недахоп сапраўды дасведчаных выкладчыкаў і адсутнасць выбару ў вучняў. Менавіта выбар фармуе асобу, а адсутнасць выбару, ураўнілаўка і стандартызацыя нараджаюць люмпена, калі грамадства ператвараецца ў натоўп.

Крыўдна, калі на канферэнцыі па беларускай мове першае месца займае адзінаццацікласнік, які падзяляе творчасць Янкі Купалы на дакастрычніцкі і пасля кастрычніцкі перыяд, адначасова адзначаючы "забітасць" Купалы да 1917 года і неверагодныя магчымасці для таленту нашага нацыянальнага песняра, якія адкрыліся пасля кастрычніцкага перавароту.

Віктар Мухін.
ЛіМ 27.03.98г.

## Шаноўнае Спадарства !

Беларуская Рэдакцыя Польскага Радыё аб'яўляе конкурс, звязаны з 200-годдзем з дня нараджэння вялікага беларускага паэта Адама Міцкевіча. Тэматыка выказванняў (у неабмежаваных памерах) павінна датычыць жыцця, дзейнасці і творчасці Адама Міцкевіча, з асаблівай увагай да наступных пытанняў:

- беларуская абраднасць у драматургіі А.Міцкевіча,
- беларуская моўная стыхія ў творчасці А.Міцкевіча,
- беларуская прырода ў паэзіі А.Міцкевіча,
- беларускі фальклёр у баладах і рамансах, а таксама ў іншых ягоных творах,
- пераклады творчасці А.Міцкевіча на беларускую мову,
- беларуская літаратурная публіцыстыка пра творчасць А.Міцкевіча,
- А.Міцкевіч у беларускіх навуковых даследваннях,
- уплыў творчасці і асабовасці А.Міцкевіча на беларускіх пісьменнікаў,
- роля музея А.Міцкевіча ў Навагрудку ў працэсе ўзбагачэння беларускай культуры,
- постаць А.Міцкевіча ў беларускіх эміграцыйных даследваннях,
- прысутнасць паэзіі А.Міцкевіча ў беларускіх эміграцыйных выданнях,
- роля творчасці А.Міцкевіча ў маім жыцці і развіцці маёй асабовасьці,
- гістарычнасць і сучаснасць А.Міцкевіча,
- значэнне А.Міцкевіча ў польска - беларускім сужыцці.

Конкурс будзе працягвацца да канца 1998 году.
Сярод удзельнікаў Конкурсу будуць размеркаваныя ўзнагароды.

## Словам не вырашыш праблему.

Неяк у адным з нумароў газеты "Наша слова" (№7.25 02.98г.) мне трапіў на вочы артыкул маёй выкладчыцы Л.М.Дзіцэвіч "Чаму беларусы не гавораць пабеларуску" ... Мяне вельмі зацікавіў гэты артыкул. Маю асабістую зацікаўленнасць ім перш за ўсё можна растлумачыць тым, што ў ім праходзіла і мая думка наконт таго, што калі чалавек адмаўляецца ад роднай мовы, то ён адначасова адмаўляецца і ад сваёй нацыі ... А па-другое, мяне цікавілі думкі маіх равеснікаў.

Я прачытала артыкул і заўважыла, што думкі студэнтаў смелыя, разумныя, натхнёныя верай і аргументаваныя жыццём.

Але пад уплывам палымяных выказванняў, узнёслых слоў у мяне нарадзілася такая думка ў вершаванай форме:

Зараз нас цікавіць тэма,
У якой адна праблема:
Беларус не "беларусіць",
А па-руску мовіць мусіць.

Як жа быць?
І дзе выйсцё ?
Трэба мове даць жыццё !
Але словамі, паперай
Не рашыцца ўся
праблема.

Кожны, прачытаўшы,
скажа:
"Пакутуе мова наша"...
Але праз гадзіну - дзве
Ён забудзе пра яе.

Гэтым вершам я хачу сказаць, што аднымі словамі, нават вельмі смелымі і рашучымі, моцнымі выказваннямі, доўгімі пранікнёнымі артыкуламі мову не адрадзіць. І ўсе, каго хвалюе тэма мовы, разумеюць гэта, але працягваюць спадзявацца, што змогуць словамі абудзіць у душах беларусаў любоў і павагу да роднай мовы. Але для гэтага трэба нешта больш моцнае, больш уплывовае, больш дзейнае ...

Я навічок у гэтай справе, але адно ведаю дакладна: без дзяржаўнай падтрымкі вярнуць беларускай мове былы прэстыж амаль немагчыма. Многія нават лічаць, што наша мова асуджана на гібель. Але я адношуся да ліку тых беларусаў, якія спадзяюцца на лепшае і хачу закончыць наступнымі словамі:

І верыць хочацца, і спадзявацца,
Што мова зможа зноў узняцца,
Што зможа ў голас загучаць,
Каб больш ужо не замаўчаць.

***Алехна Лілея***
***студэнтка БУК***

## Навучанне на роднай мове: поспехі і цяжкасці

Аддзел адукацыі Мастоўскага райвыканкама прымае практычныя меры па забяспячэнню права грамадзян на выбар мовы навучання для дзяцей у адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, Законамі Рэспублікі Беларусь "Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь", "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь".

У бягучым навучальным годзе ў раёне функцыянуе 29 агульнаадукацыйных школ, з іх на беларускай мове — 22 (75,5%), на беларускай і расейскай мовах — 7 (24,5%). У школах вучыцца 6548 хлопчыкаў і дзяўчынак. З іх у горадзе 3778 (вучацца на роднай мове — 1561 (41,3%), на расейскай мове — 2217 (58,7%). У вёсцы ўсіх вучняў 2770 (вучацца на роднай мове — 2619 (94%), на расейскай мове — 151 (6%). З вясковых школаў на расейскай мове навучання функцыянуюць 9, 10, 11 класы Правамастоўскай (70 вучняў) і Лунненскай (81 вучань) сярэдніх школаў.

У цэлым па раёне на беларускай мове навучаецца 63,8% вучняў, на расейскай — 36,2%.

У школах з расейскай і беларускай мовамі навучання сітуацыя наступная:

| Школы | Расейская мова навучання | Беларуская мова навучання |
|---|---|---|
| СШ № 1 | 589 | 259 |
| СШ № 2 | 287 | 518 |
| СШ № 3 | 279 | 315 |
| СШ № 5 | 1032 | 422 |
| СШ № 4 | 30 | 47 |
| Лунненская СШ | 81 | 159 |
| Правамастоўская СШ | 70 | 215 |

У бягучым навучальным годзе толькі 12 дзяцей 1 класа СШ № 2 г. Масты навучаецца на роднай мове з усіх школ горада, у другім класе навучаецца 35 дзяцей на роднай мове гэтай жа школы. На 1998/99 навучальны год ні адзін бацька першакласніка горада пакуль не збіраецца накіроўваць свайго сына ці дачку вучыцца на роднай мове. Таксама трэба адзначыць, што пакуль прыпыніўся працэс пераводу асобных класаў (4,5,6) з беларускай на расейскую.

***Д.Аўтуховіч***
***арганізатар адукацыі.***

## Дзеля нашага нацыянальна-культурнага адраджэння, захавання нас як нацыі.

***Іван Германовіч,***
***кандыдат філалагічных навук, дацэнт***

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэднім нумары)*

Кніга мае 5 раздзелаў: "Фаналогія і правапіс"; "Марфеміка і словаўтварэнне"; "Формаўтварэнне і яго фарматывы"; "Сінтаксічныя нормы і іх парушэнні"; "Лексічнае нармаванне". У канцы кожнага раздзела падаецца спіс найбольш актуальнай літаратуры па адпаведных тэмах. Завяршае кнігу "Паказальнік прааналізаваных моўных адзінак на старонках кнігі", які дапаможа чытачу лёгка знайсці адказ на адпаведнае пытанне. Скажам, пра словаформы загаднага ладу на -***ма***: ***будзьма*** (с.99,101), прыметнікавыя штучныя ўтварэнні на *-часкі:* язычаскі, грэчаскі (с.41,270) і падобныя.

Не аналізуючы поўна змест гэтай унікальнай кнігі, спынюся на некаторых момантах. Нельга не пагадзіцца з высновамі прафесара П. Сцяцко пра тое, што фанема **[э]** у іншамоўных словах у паслянаціскных складах рэалізуецца ў гуку **[а]**: прынтар, карцар, фламастар і пад. Гэта пацвярждае і сучасная моўная практыка. Так, нядаўна па тэлебачанні паказалі ўзоры новага дакумента, дзе буйным планам падавалася ***"ваўчар"*** (рас.ваучер). А хіба можна лічыць натуральным захаванне ў сучасным правапісе збегу галосных у іншамоўных словах, калі ён, гэты збег, парушае закон гармоніі гукаў: ***іон, Іарданія, трыо, сальфеджыо ?*** У сярэдзіне слова такога парушэння няма:*біёлаг*(бійолаг),*патрыёт*. Аўтар кнігі слушна прапануе аднавіць гэтую арфаграфічную і вымаўленчую норму, якая была замацаваная ў акадэмічным "Русско - белорусском словаре", выдадзеным пад рэдакцыяй славутых беларускіх пісьменнікаў і вучоных акадэмікаў Я.Коласа, К. Крапівы і членакарэспандэнта АН БССР П. Глебкі (Масква, 1953). Або чаму ў адных выпадках збег зычных [ з удзелам санорнага] мы падзяляем галосным (*віхор і віхар, рубель, горан, карабель*), а ў іншых не [міністр, цэнтр, метр]? Але ж у арыгінале ў іншамоўных словах санорны зычны стаіць побач з галосным: ***magicter, minicter,*** а ў нас магістр, міністр, хоць пішам ***майстар*** адпаведнага з арыгіналам.

"Гукі **Л,Р**, як засведчыў вядомы фанетыст А. Падлужны, — сустракаюцца выключна перад галоснымі ці пасля іх". Дык чаму не трымацца гэтага закону? Але нашыя слоўнікі падаюць *монстр, артыкль, бурмістр* і пад. З улікам згаданага фанетычнага закону памылковымі трэба прызнаць і словаформы назоўнікаў роднага склону множнага ліку кафедр [на месцы натуральнага кафедраў], іскр (іскраў), алгебр (алгебраў) і шмат іншых.

Надта шмат каштоўных прапановаў бачым у раздзеле "Марфеміка і словаўтварэнне". І гэта не выпадкова: П.Сцяцко — аўтар дзвюх манаграфіяў па словаўтварэнні, па гэтай тэме ён абараніў доктарскую дысертацыю ў Акадэміі навук Беларусі. Дарэчы, яго апанентамі былі знаныя навукоўцы ў галіне словаўтварэння: І.Кавалік (Украіна) і А.Ціханаў (Масква). У кнізе даецца грунтоўны аналіз неўласцівых беларускай мове ўтварэнняў з суфіксамі *-цель, -ш-а,-ёнак, -й-а, -ыш, -яг-а, -лец, -енн-, -онн-, - (ч) аск-, -чат-, -ем-, -ім-, -уч-,-ач-, -цельн-, -ірава-, -ствава-* і падобных. Або як не пагадзіцца з негатыўнай ацэнкаю "доўгіх" прыметнікавых суфіксаў *-іальн-, уальн-*, якія зацямняюць структуру і сематуку вытворных прыметнікаў" (с.36) ? І, сапраўды, калі чытаеш слова ***бінаміяльны***, то ўзнікае думка, што гэты прыметнік ад назоўніка ***бінаміял (бінаміяль-ны)***. А вось утварэнне ***біномны*** адразу бачыцца як натуральнае слова ад ***біном***. Недарэмна сучасныя тэрміналагічныя слоўнікі падаюць толькі гэтае слова на месцы ранейшага ***бінаміяльны***, якое фіксавалі акадэмічныя слоўнікі як адпаведнік рас. ***биноминальный***. А як зразумець структуру слова ***дэкларатыўны***, што падаецца ў слоўніках з значэннем ***"які мае форму дэкларацыі"***? Калі мае форму дэкларацыі, то павінна быць ***дэкларацыйны***, бо тут прыметнік матывуецца (тлумачыцца) назоўнікам ***дэкларацыя*** і ўтвараецца ад яго асновы: ***дэкларацый (а) -ны.*** Словы на *-тыўны*, - як слушна заўважае аўтар кнігі, - усведамляюцца як штучныя: яны аднаўляюць палітарную аснову лацінскіх этымонаў на -tio (параўн. ***асіміляТыўны*** і лац. ***assimilatio***), тымчасам як базавыя іх словы — назоўнікі на *-цыя* — адпавядаюць не транслітарацыі (палітарнай перадачы), а транскрыпцыі лацінскага арыгінала, дзе літара t у фіналі - **tio** чытаецца як **ц**: ***assimila [цыо]*** - ***асіміляцыя***. І як можа ўтварэнне ад назоўніка з цвёрдым гукам **(ц)** набываць на яго месцы гук **(т)**: ***інтуіцыя*** і ***інтуітыўны***? Такога чаргавання беларуская мова не мае. І калі прыметнік матывуецца назоўнікам на -цыя і ўтвораны ад яго, то ён мусіць мець і яго словаўтваральную аснову: ***інтуіцый (а) — інтуіцый-ны*** (с.37).

Характарызуючы чужую для беларускай мовы словаўтваральную мадэль дзееприметнікаў цяперашняга часу на *-ачы(-ячы), -учы(-ючы), -емы,- імы(-ымы)-*, навязаную нам сумнавядомай рэформай 1933 года і ўсесаюзным стандартам, даследчык слушна заўважае: "Апошнім часам у нацыянальным друку на месцы былых (савецкіх) дзеепрыметнікавых утварэнняў бачым натуральныя беларускія словы: ***вернік (а не веруючы), выступовец (выступаючы), вядоўца (вядучы), службовец (служачы), вайсковец (ваеннаслужачы), размоўца (гаворачы), дублёравы склад каманды ( а не дубліруючы састаў), профільныя экзамены (прафіліруючыя), падсудны (судзімы), нападальнік (нападаючы) і іншыя*** (с.58).

Шмат увагі падаецца ў кнізе аналізу неўласцівага беларускай нацыянальнай мове формаслоўя, калі на месцы натуральных беларускіх словаформаў, замацоўваліся усесаюзныя стандарты, а ўсё адметнае абвяшчалася або "дыялектным", або "устарэлым". Цікавымі, арыгінальнымі назіраннямі дзеліцца з чытачом аўтар кнігі ў раздзеле пра сінтаксічныя парушэнні нормы.

Самы вялікі раздзел кнігі — "Лексічнае нармаванне" (118 — 271 сс.). Абапіраючыся на марфемна-словаўтваральныя, фаналагічныя, семантычныя заканамернасці беларускай нацыянальнай мовы, прафесар П.Сцяцко паказвае недарэчнасць шматлікіх штучных моўных адзінак, неўласцівых нашай мове, якія жыўцом уціскаліся ў літаратурны слоўнік дзеля здзяйснення, рэалізацыі бальшавіцкай ідэі на "зліццё моваў". Першым крокам да вынішчэння адметнасці ў нацыянальных мовах было стварэнне гэтак званага "адзінага лексічнага фонду грамадска-палітычнай тэрміналогіі", бо якраз гэты фонд меўся адлюстраваць г.зв. "адзінства савецкага народа", той самы камуністычны лад. А раз так, то і словы мусяць быць аднолькавыя. У выніку літаратурная беларуская мова, асабліва пісьмова-кніжная, ператварылася такім чынам у расейска-беларускую моўную трасянку. Такімі штучнымі для беларускай мовы называюцца ў кнізе словы: ***аддзелаць, аддзелка, аддзелачны, адміністратыўны, адпячатак, адработак, аленні, ало, апушка, арлёнак, аўчарнік, ахоўваемы, баранні, белашвейны, белка, бельчын, берагавушка, брадзяга, брытвенны, брэш, бульдожы, бумажнік, быстраногі, быстры, бяседа ("гутарка"), Васін*** (на месцы ***Васеў***), ***весяльчак*** і тысячы іншых, якія парушаюць сістэмавыя нормы беларускай нацыянальнай мовы.

У кнізе падаецца 128 лексікалагічных нарысаў, у якіх разглядаюцца штучныя словы [і неаднаслоўныя наменацыі], механічна перанесеныя ў беларускую мову для таго, каб хутчэй наблізіць беларускую мову да расейскай, распусціць яе ў апошняй. Напрыклад, у нарысе **"Авечнік — а не аўчарнік"** (с.152) паказваецца штучнасць пазычанага слова ***аўчарнік.*** Яго падае "Беларуска - рускі слоўнік" 1988 г.) на месцы натуральнага беларускага ***авечнік*** (утварэнне ад ***авечка***, ***авечы хлеў)***. Форма ***аўчарнік*** усведамляецца як суфіксаванае ўтварэнне ад ***аўчар***: ***аўчар-нік.*** Але ж слова ***аўчар*** у беларускай мове мае значэнне ***"авечы пастух"*** (гэта засведчыў "Тлумачальны слоўнік" ,т.1, с.304). Таму ***аўчарнік*** — гэта памяшканне не для авечак, а для пастухоў, даглядчыкаў авечак". У кнізе "Праблемы нормы, культуры мовы" падаецца багаты матэрыял для роздуму над праблемамі нашага нацыянальна - культурнага адраджэння, захавання нашай мовы як найгалоўнейшай адзнакі беларусаў. "Мова - гэта адзежа душы чалавека", — пісаў Францішак Багушэвіч. А вось гэтак званыя "інтэрнацыянальныя" словы толькі руйнуюць беларускі этнас. На с.119 падаюцца такія "інтэрнацыяналізмы" з "Трасянкава-беларускага слоўніка назваў населеных пунктаў Беларусі", складзенага настаўнікам геаграфіі з Бабруйска Валянцінам Жыдцом і дасланага ў 1993 годзе ў рэдакцыю газеты "Звязда". Часткова гэты слоўнік быў апублікаваны ў нарысе М.-Яновіча пад назваю "Купіна "Акцябр" на трасянкавым мацерыку". У слоўніку больш за 200 прыкладаў чужых найменняў на карце Беларусі. Сярод іх пасёлкі: Акцябрскі, Луч, Надзежда, Васток, Вазраждзенне, Пабядзіцель, Уютны, Юны Пахар , Трудавік; вёскі: Акцябр, Акцябрава, Зашчыта, Дасціжэнне, Каўровая і падобныя.

Кніга П.Сцяцко, доктара філалагічных навук, прафесара, выдатніка народнай асветы Беларусі, "Праблемы нормы, культуры мовы" — надта важкі ўклад у беларускае мовазнаўства, ёю будуць карыстацца спецыялісты розных галінаў нашай лінгвістыкі, і найперш лексікографы, граматысты, лексіколагі. Вялікую карысць прынясе яна працаўнікам рэдакцыяў, выдавецтваў, журналістам, пісьменнікам, усім, хто дбае пра чысціню і натуральнасць нашай мовы.

**Разам з тым гэтая кніга — высокапатрыятычная праца, дзе адстойваецца нашая нацыянальная адметнасць — дзеля захавання беларускай нацыі, яе найгалоўнейшай прыметы — нацыянальнай мовы. Без мовы няма нацыі, а без нацыі — і дзяржавы.**

**АБВЕСТКА**

Замовы на кнігу Паўла Сцяцко "Праблемы нормы, культуры мовы (Гродна:ГрДУ, 1998.--295 с.) можна дасылаць на адрас: Г.В.Данілаву, выдавецкі аддзел, Гродзенскі універсітэт, вул. Ажэшкі, 22, Гродна, 230023.

УЗОР ЗАМОВЫ: "Прашу даслаць накладной платай ... асобнікаў кнігі Паўла Сцяцко "Праблемы нормы, культуры мовы" на адрас (падаецца дакладны адрас замоўніка)".

# Бог чуе нас па-беларуску

Даведаўшыся з артыкула сп. Астапенкі А., як складана ўвесці беларускую мову ў праваслаўнае набажэнства, хочацца сказаць бедным святарам: "Бог з Вамі. Няхай ужо застаецца, як ёсць, калі гэта так цяжка". Але тое-сёе з жыццёвага досведу стрымлівае. Пэўна падобныя аргументы гучалі ў розных краінах супраць карыстання каталікамі нацыянальнымі мовамі за мест лацінскай. А не вельмі даўно нас пераконвалі, што ўжываць беларускую мову замест польскай ну аніяк не выпадае. Сёння набор аргументаў на гэтым полі звёўся да апошняй надуманай спасылкі, што ўсе каталікі - палякі.

Слухаючы айца Завальнюка ў "Голасе душы", не ўзнікае сумневу, што Бог чуе нашу мову цераз каталіцкі абрад.

Давялося заказваць памінальную імшу ў гарадзенскім касцёле. Размова па беларуску. Імша выконвалася, як прасілі, па беларуску. Ніякіх праблем, і мы не ведаем, якія погляды мае гэты ксёндз. Адно пэўна: мае разуменне свайго пастырскага абавязку.

Чаму ж падобнае немагчыма для праваслаўных беларусаў ? Маю праваслаўны беларускі малітоўнік. Дык што, тых, хто ім карыстаецца за мяжой, Бог не чуе ? А калі чуе, то пэўна і тут гэты малітоўнік быў бы прыдатны. І без дадатковых пакут перакладання.

Пажаданні большасці праваслаўных адраджэнцаў (у тым ліку і з інтэлігенцыі) зводзяцца не да праблем кананічных тэкстаў. Яны хочуць адчуваць сябе ў сваім храме на сваёй зямлі. Хочуць слухаць Слова Божае, маліцца Богу за сябе і свой народ на сваёй, Богам жа дадзенай, мове.

А "медоточивые" галасы сп.Асмалоўскай і святароў у перадачы для праваслаўных вернікаў "Возвышенное и земное" аніяк не наводзяць на думкі аб царкоўна-славянскай мове. Лёгка заўважыць, што гэта звычайная расейская мова, як лёгка зразумець, чаму не беларуская. Бо вельмі выразна відаць, што праваслаўныя каштоўнасці падаюцца з імперскіх пазіцый.

Складваецца ўражанне, што праваслаўная царква не можа, а мо і не хоча вырвацца з трыяды " Самодержавие, Православие, Народность".

Прапагандысцкія самаробкі з жыцця расейскіх цароў, па сутнасці высмактаныя з пальца, выклікаюць пачуццё гідлівасці і зместам і формай іх падачы ў любога, хто іх чуе.

Зусім не дзіўным падаўся мне непрыемны выпадак з маёй знаёмай. Яна запыталася ў праваслаўнага святара (па-расейску) ці ёсць магчымасць навучыць дзіця катэхізму на роднай, беларускай мове.

Святара нібы варам абдало! Не гледзячы на свой сан і месца размовы (у храме!) ён далажыў усім: і гэтым бэнэфаўцам і Богу духа віннаму сп.Шушкевічу і ўсім астатнім, што "развалілі СССР"! У сваёй нянавісці да ўсяго беларускага гэты чалавек хутчэй нагадваў раз'юшанага прадстаўніка партыі Малафеева ці Гайдукевіча, чым носьбіта ласкі Божай (благодати). Ну што святару сёння да таго СССР у пытаннях царкоўнага жыцця? Хіба тое, што зараз падобная "смеласць" верніцы выключае непрыемнасці для яе. Той, у каго хрысціяне не могуць заставацца беларусамі пад час размовы з Богам, анічым не адрозніваецца ад тых, хто настойліва пераконвае нас, што мы славяне. У іх разуменні гэта, чамусці, выключае ўсякую беларускасць.

Нажаль, рэлігія ў нашай краіне яшчэ не стала асабістай справай чалавека і ўжываецца як палітычная зброя, што мы назіраем у выпадку ўсіх канфесій. Нельга не бачыць, што да самых верхніх іерархаў праваслаўнай царквы рэлігія ўсё яшчэ інструмент русіфікацыі і дэнацыяналізацыі беларусаў. Нешматлікія выключэнні маюць тую ж долю, што і руплівцы беларускай адукацыі ў ведамстве сп.Стражава.

І апошняя заўвага. Варта паглядзець, сп.Астапенка, ці стала менш вернікаў у Свята-Петра-Паўлаўскім Саборы з-за ўжывання беларускай мовы. А затым перанесці эксперымент з 17 гадзінаў працоўнага дня (!) на нядзельную службу. Гарадзенскі Фарны касцёл не страціў вернікаў, перавёўшы нядзельную імшу а 15 гадзіне на беларускую мову.

Царква аддзеленая ад дзяржавы не можа быць ад яе аддаленаю. Усе праблемы ў ёй — адбітак таго, што адбываецца ў дзяржаве і грамадстве і вырашацца змогуць толькі узаемазвязана. Бог нас чуе па-беларуску, і калі мы хочам быць пачутымі, то і павінны звяртацца да яго на ім жа дадзенай мове.

А.Жукоўскі.
г.Гародня.

# Беларускамоўнае набажэнства ёсць !

У "Нашым слове" за 1 красавіка надрукаваны артыкул спадара Астапенкі "Беларускамоўнаму набажэнству быць!". Прыхільнікі Беларушчыны вітаюць намаганні Менскага Свята-Петра-Паўлаўскага Сабора і асабіста пратаіярэя а.Георгія Латушкі па ўвядзенню беларускай мовы ў Царкве.

Менскі клуб "Беларуская хатка" ўжо трэці год запар звяртаецца да айца Георгія з просьбамі правесці набажэнства 7 красавіка у дзень смерці Ларысы Антонаўны Геніюш і заўжды атрымлівае згоду. У гэтым годзе так была адзначана 15-ая гадавіна смерці мужнай беларускай паэткі.

Прапаную Беларускаму праваслаўнаму брацтву Трох Віленскіх пакутнікаў далучыцца да ўшанавання памяці Л.А.Геніюш і рабіць гэта кожны год. Калі б такія набажэнства прахodзілі пасля 18 гадзін, у непрацоўны час і аб гэтым паведамлялася ў друку, то прыходзячых у Царкву пабольшала б.

Грэка-каталіцкія парафіі праводзяць набажэнствы ў зручныя для вернікаў часы і ўжываюць выключна беларускую мову. Акрамя гэтага для вернікаў украінцаў набажэнствы ладзяцца па-украінску. Праблемы з перакладамі на беларускую мову пры жаданні паспяхова вырашаюцца.

Мускі Барыс, г. Менск .



Петрапаўлаўскі сабор у Менску

# Яны трымалі сцяг і крыж.

Ёсць у Беларусі сыны, пра якіх забыліся нашчадкі і па сённяшні дзень не хочуць ці не могуць успомніць. Маю на ўвазе невялічкі гурток беларускіх каталіцкіх святароў, якія ўсё жыццё неслі крыж сваёй святарскай паслугі і акрамя Слова Божага давалі людзям святло навукі, культуры, нацыянальнага самавызначэння. Упэўнены, што большасці чытачоў не вядомы прозвішчы гэтых людзей: Кс. А.Астрамовіч (+1921 год) (А.Зязюля) - беларускі паэт; напісаў вядомы гімн "Божа, што калісь народы". Праз свае рэлігійныя вершы паказаў, што беларуская мова цалкам здатная для касцельнага жыцця. Кс. К.Стэповіч (Казімер Сваяк) ( 1890 - 1926 ) беларускі пісьменнік і паэт. Выдаў малітоўнік для беларусаў католікаў "Hotas Duszy", пісаў вершы, прозу. Аўтар песні "Благаслаўлёны". Але перад усім хацелася б звярнуць увагу на Кс. Язэпа Германовіча і Кс. Адама Станкевіча. Айцец Германовіч, беларускі пісьменнік і паэт нарадзіўся 4 сакавіка 1890 года ў Гальшанах. Вырас сіратой у беднай сям'і, накіраваўся ў Вільню, каб паступіць у Духоўную Семінарыю. Пасля яе заканчэння працаваў на вёсцы і ў Беластоку ў якасці душпастыра. У 1924 годзе айцец Германовіч уступіў у закон марыянаў і ўжо ў 1932 годзе быў пасланы несці Евангелле на Далёкім Усходзе, у Манджурыі, у горадзе Харбіне. Тут пачынаюцца дзеянні, апісаныя ім у кнізе "Кітай - Сібір - Масква".

З групай айцоў, што разам з ім апекаваліся бяздомнымі дзецьмі, айцец Германовіч быў арыштаваны кітайскімі камуністамі і ў хуткім часе прададзены, у прамым сэнсе гэтага слова, савецкаму НКУС. З гэтага часу пачынаецца для бедных вязняў сапраўднае савецкае пекла. Пасля доўгага следчага працэсу ў судзе айцу Германовічу прыпісваецца шпіёнства супраць СССР на карысць Амерыкі. Прыгавор кароткі і жудасны : 25 гадоў лагераў. Слёзы крыўды наварочваюцца на вочы, калі чытаеш пра гаротны лёс мільёнаў бязвінных людзей, пра жорсткасць і звярыную лютасць бязбожных выканаўцаў волі "бацькі народаў". Нягледзячы на цяжкасці, на хваробу і старэчыя гады, айцец Германовіч з вытрымкай і хрысціянскай любоўю падыходзіць да ўсяго і дае прыклад перамогі праўды над фальшам, дабра над злом.

На конт самога стылю напісання кнігі аўстралійскі крытык О.Вэрэс гаворыць наступнае: "Успаміны напісаны цікава, жывой беларускай мовай. Цікавей за ўсё тое, што аўтар Язэп Германовіч на злачыннае следства НКУС, на савецкую турму і лагеры глядзіць вокам духоўнага і гуманіста. Аўтар успамінаў належыць да духавенства праўдзівага паклікання і таму ўсе няшчасці прыймае,

Ксёндз Язэп Германовіч (паэт Вінцук Адважны)

як кару Божую, з пакорай. Да таго ж аўтар Язэп Германовіч пераплятае ўсё гэта сваім талентам гумару, і, калі чытаеш пра пекла чырвонамаскоўскай інквізіцыі, часта хапаешся за бакі ад жартаў. У гэтых успамінах бачым прыроджаныя пісьменніцкія здольнасці аўтара. Назіральнасць, жартоўнасць, кемлівасць. Паміраючы ў пазурах ворага з голаду, смяяцца ў твар самой смерці — гэта ўжо перамога над ворагам".

Так сказаў аўстралійскі крытык. Ад сябе ж хочацца выказаць захапленне ад прачытанага і адначасова крыўду і жаль, што твор, напісаны на роднай мове, які мае пераклады на расейскую, іспанскую, італьянскую і інш. даводзіцца чытаць у перакладзе.

Лёс другога святара Адама Станкевіча таксама поўны трагізму і славы. Гэты змагар і пакутнік за Беларушчыну нарадзіўся 24 снежня 1891 года (стары стыль) у Вёсцы Арляняты на Ашмяншчыне. Гэта беларускі ксёндз быў вядомы сярод беларускай моладзі і інтылігэнцыі праз сваё супрацоўніцтва ў такіх выданнях, як: "Светач", "Крыніца", "Дзянніца". Удзельнічаў ён таксама траўні 1917 года ў з'ездзе беларускіх святароў, супрацоўнічаў у камітэце дапамогі ахвярам вайны, Беларускім нацыянальным камітэце, Таварыстве беларускай школы.

Мы, беларусы, можам і абавязаны ганарыцца чалавекам, які самаахвярна адстойваў інтарэсы свайго народу ў польскім сейме ў 1922-1928 гадах. Немалаважны і той факт, што ў 1926 годзе кс.А.Станкевіч заснаваў у Вільні Беларускую друкарню імя Францішка Скарыны, а ў 1928 годзе Беларускае каталіцкае выдавецтва. Кс. А. Станкевіч — асоба, цікавая не толькі з боку гісторыі, але і з боку асветніцтва і літаратуры.

Мне чамусьці не зразумела, чаму чалавек, які напісаў 19 кніг і больш чым 2000 артыкулаў словам не ўпамінаецца ў нашай беларускай літаратуры. А ў яго творчасць варта было б зазірнуць хаця б толькі з-за гэтых кніг: "Доктар Францішак Скарына, першы друкар беларускі", "Родная мова ў святынях", "Кастусь Каліноўскі", "Мужыцкая праўда і ідэя незалежнасці Беларусі", "Міхаіл Забэйда-Суміцкі і беларуская народная песня".

Зноў жа, крыўдна за сябе і за ўсіх, хто цікавіцца знакамітымі беларусамі, іх дзейнасцю. На сённяшні дзень мы маем толькі рэпрынтныя выдані твораў кс. А.Станкевіча, друкаваныя лацінкай, якія далёка не кожны зможа пра-чытаць. Дый адшукаць іх — вялікая праблема.

Кс. А.Станкевіч на алтар Беларусі паклаў сваё жыццё, поўнае працы, малітвы і мальбы за Беларусь. У чэрвені 1949 года ён быў арыштаваны, цярпеў допыты, катаванні і таксама, як айцец Я.Германовіч, атрымаў прысуд: 25 гадоў лагераў. Жыццё гэтага святога чалавека скончылася пад Брацкам у адным з канцлагераў 29 лістапада 1949 года. Пахаваны на лагерных могілках, сярод тысячаў іншых ахвяраў. На бацькаўшчыне яго, у вёсцы Арляняты, стаіць сімвалічны помнік са словамі:

Высока ў буру
і ў пагоду
Ты родны сцяг
і крыж трымаў,
Між беларускага
народу
Святую праўду
засяваў.

Гэтыя ксяндзы засеялі для нас праўду, якой мы так доўга чакалі. Дзе ж нашая ўдзячнасць да гэтых волатаў беларускасці ? Няўжо іхнія намаганні і ахвяры былі дарэмныя ? Яны аддалі самае дарагое, што мелі, Богу і Беларусі. Пан Бог прыняў іх у сваім Валадарстве. Чаму ж іх не прымае Беларусь ?..

**Павел Скрыпскі**
**г.Гародня**

# Віцебск пачынаецца з "Вытокаў".

Вось ужо чацвёрты год запар 26 лютага праводзіць свае вечары нацыянальны творчы цэнтр "Вытокі" у ПТВ-46 г. Віцебска. Як заўсёды мела месца бага-



тае аздабленне залы вышыўкамі, малюнкамі. Зала была застаўлена сталамі з рознымі пачастункамі. Удзельнікаў "Вытокаў" прыцягваюць народныя абрады, магчымасць кожнаму паспрабаваць сябе ў ролі актора. Галоўная мэта "Вытокаў" — адраджэнне народных традыцый і ўцягваннее моладзі ў творчую працу і адпачынак. А для ўсіх прысутных — гэта перш за ўсё вясёлае свята, якое стала магчымым дзякуючы выкладчыцы фізікі Святлане Ляўковіч, адміністрацыі вучэльні і асабіста дырэктару М.Тыва.

Штогод у "Вытокаў" новы сцэнар. Назва сёлетняга "Рада на нябёсах". Вось яго сюжэт. З нябёсаў спусціліся вялікія гістарычныя дзеячы, а навучэнцы, іх нашчадкі павінны даказаць, што памятаюць і шануюць звычаі прашчураў.

За доўга да прадстаўлення пачынаецца падрыхтоўка, ідуць рэпэтыцыі, вырабляюцца касцюмы і дэкарацыі. Зусім натуральна, што акрамя хваляванняў удзельнікі адчуваюць на сцэне і радасць, ад падтрымкі гледачоў.

Пачатак свята быў вельмі ўрачыстым. У зацікаўленай зале патухла святло, на сцэну пры музы-чным суправаджэнні ўнеслі свечкі.



Грамавы голас гла-шатая (навучэнец 79 групы А.Даўгяла) абвяшчае выхад князя Гедыміна (майстар вытворчага навучання М. Кахавец) у суправаджэнні суровай аховы. Словы князя поўныя трывогі за лёс нашага краю. Ён запрашае на сцэну іншых гістарычных асобаў: Францішка Скарыну, Льва Сапегу, Януша Радзівіла, Рагнеду, Кастуся Каліноўскага з паўстанцамі, Ефрасінню Полацкую і епіскапа віленскага Е.Пратасэвіча ў суправаджэнні манахаў. Іх ролі адпаведна выконвалі Г.Бярозкін, Ф. Анікееў, А.Макараў, П. Якуцін, К.Саламонава, П.Смалькоў, А. Селязнёў, Л. Маркава, К. Гарбатаў.

— Далоў успаміны, хопіць болю, — ад імя прашчураў сказаў Гедымін, — мы прыйшлі пагутарыць пра нашую мову, гісторыю, традыцыі.



Гістарычныя асобы былі запрошаны ў залу, каб па меры выступленняў творчых групаў перканацца ў значнасці для людзей канца XX стагоддзя песень, танцаў, нацыянальнага побыту. Удзельнікі "Вытокаў"ігралі Пакровы, дэманстравалі абрад выпечкі каравая, калядны абрад, разыгрывалі фрагмент купалаўскай Паўлінкі і г.д. Усё гэта паставілена на шыкоўнай беларускай мове і з неблагой рэжысурай, а ўдзельнікамі свята сталі майстры вытворчага навучання, загадчык гаспадаркі вучэльні, вялікая колькасць групаў: першы курс — 93, 94, 96, другі курс — 83, 85, 87, 88, 89, трэці курс — 75, 76, 78, 79 і група 56 Т.

Весела і ад душы плясkалі артыстам не толькі гаспадары, але і госці: карэспандэнты газет "Віцьбічы", "Віцебскі рабочы", "Народнае Слова", абласнога тэлебачання, прадстаўнік аблвыканкама, фальклёрны калектыў "Медуніца" з в. Адаменкі Ліёзнанскага раёна.

Працягам быў традыцыйны карагод, а завяршыла ўсё дыскатэка.

Алесь Макараў,
навучэнец 3-га курса
ПТВ-46 г. Віцебска.

# Прафесія бібліятэкара вачыма выпускніка

У Беларускім універсітэце культуры на факультэце бібліятэчна-інфармацыйных сістэм у 501 і 502 групах быў праведзены "Круглы стол" на тэму : "Прафесія бібліятэкара вачыма выпускніка". У ім прымалі ўдзел студэнты і куратары вышэй названых груп, дэкан і выкладчыкі факультэта. Вялікае ўражанне на студэнтаў аказала тое, што да іх у госці прыйшлі не толькі выкладчыкі, але і іх старэйшыя калегі — супрацоўнікі бібліятэк — дырэктар Цэнтралізаванай дзіцячай бібліятэчнай сістэмы г. Менска Сачко Л.М. і загадчыца аддзела абслугоўвання малодшых школьнікаў філіяла № 1 Кудраўцава М.Д.

У час правядзення "круглага стала" адбылася шчырая размова аб прафесіі бібліятэкара, яе прэстыжы, духоўнасці, этыцы бібліятэкара, абмяркоўваліся праблемы і перспектывы гэтай прафесіі. Вельмі горача ўдзельнікі выказвалі сваё меркаванні аб тым, як яны, нашы выпускнікі, уяўляюць сваё рабочае месца, дзе мараць працаваць, на якай пасадзе, якога чытача яны чакаюць, як будуць да яго адносіцца і г.д.

Трэба адзначыць, што на "круглым стале" многа ўвагі студэнты аддавалі канкрэтным пытанням, у прыватнасці, такім, як роля бібліятэк у адраджэнні нацыянальнай культуры. Амаль кожны студэнт палічыў патрэбным выказацца па гэтаму пытанню. Таму ў выступленнях студэнтаў знайшлі адлюстраванне такія кірункі дзейнасці бібліятэк як : бібліятэка — асяродак нацыянальнай культуры, дзейнасць бібліятэк па стварэнню і ўзбагачэнню нацыянальных фондаў бібліятэк, арганізацыя бібліятэкарамі работы па правядзенню нацыянальных святаў і абрадаў, ушанаванне імёнаў лепшых прадстаўнікоў культуры, садзейнічанне ажыццяўленню работы па вывучэнню гісторыі роднага краю. Таксама актыўна абмяркоўвалася пытанне выкарыстання розных форм і метадаў па распаўсюджванню беларускай кнігі, такіх як: прэзентацыя кніг беларускіх пісьменнікаў і навукоўцаў, агляды літаратуры, чытацкія канферэнцыі і дыскусіі, сустрэчы з лепшымі прадстаўнікамі беларускай інтэлігенцыі, культуры, мастацтва, паэтамі і пісьменнікамі, народнымі ўмельцамі. Актыўна ішло абмеркаванне работы бібліятэк у гасцёўнях, сустрэчы з цікавымі людзьмі.

У выступленнях студэнтаў знайшлі адлюстраванне таксама прапановы аб сумеснай рабоце бібліятэк з грамадскімі арганізацыямі і ўстановамі па шырокаму далучэнню насельніцтва, асабліва дзяцей і падлеткаў, да ўспрымання культурнай спадчыны, дзейнасці бібліятэк па фармаванню самасвядомасці і далучэнню да нацыянальнай культуры.

Студэнты выказалі свае добрыя ўражанні аб дзейнасці бібліятэк Цэнтралізаванай дзіцячай бібліятэчнай сістэмы г. Менска па распаўсюджванню беларускай кнігі, звярнулі асаблівую ўвагу на інтэр'ер Цэнтральнай бібліятэкі і бібліятэкі-філіяла № 1 Цікавай інфармацыяй па гэтых і іншых пытаннях дзейнасці бібліятэк на сучасным этапе дапоўнілі лепшыя спецыялісты, якія працуюць доўгі час у бібліятэках, Сачко Л.М. і Кудраўцава М.Д.

Дадзенае мерапрыемства было не толькі цікавым, але і карысным, таму што супрацоўнікі бібліятэк не толькі падзяліліся асабістым практычным вопытам, расказалі аб складанасцях і перспектывах прафесіі бібліятэкара, але і запрасілі 10 выпускнікоў на работу ў Цэнтралізаваную дзіцячую бібліятэчную сістэму г. Менска.

Студэнтка 501 гр.
Радыкульцава А.
Беларускі універсітэт культуры.

# АПОВЕСЦЬ ПРА СЛОВЫ

## Радавод

РАДАВОД, — паходжанне ад агульнага продка, сістэма генетычных (біясацыяльных) сувязяў, заснаваных на сваяцтве. Навука, што вывучае паходжанне, гісторыю, сваяцкія сувязі асобных людзей, сямей, родаў называецца генеалогіяй. У фальклорнай традыцыі ў сярэднявеччы былі пашыраны легенды і паданні аб паходжанні знакамітых асоб, князёў, родаў, этнасацыяльных груп і цэлых народаў. На аснове радаводных звестак вяліся спецыяльныя кнігі, гербоўнікі, складаліся табліцы, што ўзнаўлялі *радаводнае* дрэва і сістэму генетычных міжпакаленных сувязяў. З асобай увагай народ ушаноўваў сваіх продкаў, што яскрава адлюстороўваліся ў шматлікіх абрадах і святах — радаўніцы, дзядах, каляднай куцці і інш. Радавод базіраваўся на разгалінаванай сістэме сваяцкіх узаемадачыненняў, дзе цэнтральнае месца займалі бацькі і іх наўпроставыя нашчадкі — дзеці і ўнукі. У адносінах адзін да аднаго ці да іншых блізкіх людзей яны ўтваралі розныя ступені і віды сваяцтва: цесць і цешча — бацькі жонкі; свёкар і свякруха — бацькі мужа; зяць — муж дачкі; нявестка — жонка сына; сваты — бацькі мужа і жонкі ў адносінах адзін да аднаго; швагер — муж сястры або брат жонкі ( яго называлі яшчэ шурынам); брат мужа — дзевер; сястра мужа — залоўка; брат бацькі — дзядзька, а сын брата — пляменнік; дзеці братоў ці сясцёр у адносінах адзін да аднаго — дваюрадныя , ці стрыечныя, браты (або сёстры). Апрача таго існавала і няпоўнае сваяцтва па аднаму з бацькоў: айчым (нядродны бацька, муж маці), мачаха (нядродная маці, жонка бацькі), пасынак (нядродны сын аднаго з бацькоў), падчарыца (нядродная дачка аднаго з бацькоў). Сваяцтва — адзін з традыцыйных інстытутаў, што адыгрываў істотную ролю ў прыватным і грамадскім жыцці, кансалідацыі грамадства, прававым рэгуляванні ўзаемаадносін, перадачы духоўнай і матэрыяльнай спадчыны, замацавання сацыяльнага статусу і інш.

В.С.Цітоў
Доктар гістарычных навук.

## Ратуша

Мураваны або драўляны будынак, у якім размяшчаўся гарадскі магістрат. Ратуша ў перакладзе з нямецкага азначае ( дом сходаў, дом нарадаў, das Rathaus). Першыя такія, дамы з'явіліся ў Заходняй Еўропе ў XII стагоддзі.



Ратуша ў Нясвіжы

Будынак ратушы звычайна прамавугольнай формы, будаваўся у цэнтры горада, пасярэдзіне плошчы, дзе адбываліся кірмашы. Ратушу амаль заўсёды упрыгожвала вежа, яна выконвала ролю назіральнай вышкі ( на выпадак пажару або варожага нападу). Галоўным памяшканнем ратушы была зала пасяджэнняў магістрата — на другім паверсе асноўнага будынка. Вакол ратушы мясціліся гандлёвыя рады і крамы.

На канец XVI ст. усе вялікія беларускія гарады мелі ратушы, у асноўным драўляныя. У час шматлікіх пажараў яны часта гарэлі, і таму там, дзе магістраты мелі значныя сродкі, узводзіліся мураваныя будынкі.



Ратуша ў Магілёве

Самыя старажытныя мураваныя ратушы на Беларусі збудаваныя ў канцы XVI ст. у Менску і Нясвіжы. Да XVII ст. адносіцца будаўніцтва мураваных ратуш у Магілёве, Міры і Віцебску. Шмат каменных ратуш узведзены на Беларусі ў XVIII ст. Гэта ратушы ў Гродне, Шклове, Слоніме, Чачэрску і Шарашове.

Алег Трусаў,
кандыдат гістарычных навук.

**Часовы выканаўца абавязкаў рэдактара Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.

*Рэдакцыйная рада:*
Генадзь Бураўкін — старшыня, Людміла Дзіцэвіч, Сяргей Запрудскі, Аляксей Пяткевіч, Аляксей Рагуля, Аляксей Саламонаў, Павел Сцяцко, Алег Трусаў, Эрнэст Ялугін.

*Аўтары нясуць поўную адказнасць за падбор і дакладнасць прыведзеных інфармацый.*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі і друку Гродзенскага аблвыканкама. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Кошт па дамове.Газета падпісана да друку 11. 05. 98 г.
Наклад 3500 асобнікаў. Замова № 1329.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 12 000 руб., 3 мес.- 36 000 руб.